# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 12 (1714) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК, 19 САКАВІКА 1989 г. ЦАНА 40 зл.





Выступае калектыў „Белыя росы", рэпартаж аб ім глядзі на стар. 6-7.

## ДНІ КУЛЬТУРЫ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ НА БЕЛАСТОЧЧЫНЕ

Песняй, танцамі, новымі беларускімі кніжкамі, мастацкімі выстаўкамі, спектаклямі і інструментальнай музыкай разліліся па Беласточчыне Дні культуры Гродзеншчыны, якія працягваліся ад 20 да 26 лютага г.г. Яны адбыліся ўпершыню — і сходу так багата! Прывезлі і паказалі нам сябры з-за блізкай мяжы ўсё, што маглі, а чаго не маглі — таксама, здаецца, хацелі б узяць з сабою і паказаць. Больш 1000 удзельнікаў у гэтым свяце прыехала на Беласточчыну. І быў гэта сяброўскі і шчыры візіт.

Цяжка нават сказаць, што было важнейшае ў гэтых Днях: песня ці выстаўка-кірмаш новых беларускіх кніжак, танец ці выстаўка мастацкага шкла, спектаклі ці выступленні салістак. Важна было адно: уся Беласточчына была абдзелена спаўна і кожны рэгіён не пасмакаваў хаця крышынку аўтэнтычнага беларускага мастацтва. Былі гэта спатканні ў дамах культуры, у клубах, школах і святліцах, — усюды там, дзе можна было выступіць і нешта запрэзентаваць людзям. Выступалі ў Бельску, Гайнаўцы, Лапах, Кляшчэлях, Нараўцы, Боцьках, Белавежы, Саколцы, Сухаволі, Сямяцічах, Чыжах, Дубінах... Каб усім хапіла патроху.

Найбольш, вядома, прыехала мастацкіх калектываў. Калектывы ад такіх, як прафесіянальны калектыў „Белыя росы", што існуе пры Гродзенскай дзяржаўнай філармоніі, — праз танцавальны калектыў „Раніца" (працуе ў Гродне пры Доме культуры працаўнікоў тонкасуконнай прамысловасці), калектыў песні і танца „Лідчанка" з Ліды, танцавальны калектыў „Вянок" (створаны пры Палацы культуры і тэхнікі Гродзенскага прадпрыемства „Азот"), калектыў песні і танца „Крыніцы" з Ашмян, „Нёман" — з Гродна, ансамбль народных музыкантаў з Гродна „Музыкі", — да вясковых, як жа абаяльных калектываў, вось хаця б, як калектыў з вёскі Струбніца Мастоўскага раёна, які выступіў у ГП БГКТ са слоўна-музычным мантажом „Гутарка аб матчынай мове" пасля сустрэчы з беларускімі пісьменнікамі з Гродна Данутай Бічэль-Загнетавай, Аляксеем Карпюком і Юркам Голубам.

Дарэчы, пра пісьменнікаў. Сустрэча была надзвычайная, а Данута Бічэль-Загнетава, як заўсёды, зачаравала слухачоў сваёй эрудыцыяй і непахіснасцю ў барацьбе за беларускую справу. Людзям было цікава ўбачыць і паслухаць тых, якіх бачылі яны толькі па кніжках. Па-

(Працяг на стар. 4)

## ВІЗІТ

Нячаста здараюцца сустрэчы кіраўнікоў БГКТ з прадстаўнікамі Урада БССР. Такое спатканне адбылося ў пятніцу 24 лютага 1989 г. З візітам у нашай краіне пабывалі: **віцэ-міністр культуры БССР Уладзімір Гілеп і старшыня Беларускага фонду культуры, пісьменнік Іван Чыгрынаў.** Будучы ў Беластоку пажадалі яны сустрэцца з кіраўнічым актывам БГКТ. У сустрэчы прынялі ўдзел таксама дырэктар Аддзела культуры і мастацтва Ваяводскай управы ў Беластоку Марыя Маранда і намеснік загадчыка Аддзела культуры Аблвыканкома ў Гродне Віктар Губіч.

Аб дзейнасці Беларускага таварыства, яго дасягненнях і клопатах расказаў старшыня ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі, а яго выказванні папоўнілі Сакрат Яновіч (гаварыў аб тым, як цяжка купіць беларускія кніжкі ў ПНР) і Канстанцін Майсеня (сказаў пра пабудову музея ў Гайнаўцы).

Віцэ-міністр Уладзімір Гілеп паінфармаваў, што рыхтуецца да падпісання пагадненне аб супрацоўніцтве паміж БССР і ПНР у галіне культуры. Адзін з пунктаў пагаднення адносіцца да супрацоўніцтва з Беласточчынай і пражываючым тут беларускім насельніцтвам (гэтае пагадненне міністры культуры ПНР і БССР падпісалі 27 лютага г.г.).

Старшыня БФК Іван Чыгрынаў заявіў, што з'яўляецца ён старшынёю Пастаяннай камісіі па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах Вярхоўнага Савета БССР. Яму нацыянальныя справы добра вядомыя. Сцвердзіў, што ў БССР шмат ведамстваў займаецца нацыянальнай справай і часта з-за бюракратычных прычын некаторыя пытанні не вырашаюцца. Запрапанаваў Таварыству даслаць у красавіку на адрас Пастаяннай камісіі, якую ён узначальвае, спісак тых спраў, у вырашэнні якіх можа дапамагчы савецкі бок.

Пасля доўгіх гадоў адсутнасці афіцыйных кантактаў БГКТ з ведамствамі ў БССР ад мінулага года аднатоўваем узрост зацікаўлення савецкага боку беларусамі ў Польшчы. Апошні візіт прадстаўнікоў міністэрства і Беларускага фонду культуры дае надзею, што супрацоўніцтва ў галіне культуры і асветы будзе прадаўжацца і замацоўвацца.

В. Луба




У гэтай справе хацеў я ўжо даўно напісаць, але толькі сёння сабраўся. У чым рэч? У тыднёвіку час ад часу паяўляецца такая рэклама:




Звярніце ўвагу на малюнак таго чалавека, які трымае ў руках часопіс. Ці вы сапраўды гэтак уяўляеце свайго чытача? Гэта ж нейкі ідыёт, дурыла, у кожным выпадку напэўна не нармальны чалавек. Ці гэта менавіта для дурылаў „Ніва" — найлепшы прыяцель"? Прабачце, штосьці тут не так! Маем у рэдакцыі вельмі здольнага мастака — У. Петрука. Няхай намалюе чытача інтэлігентнага, годнага ўзяць у рукі „Ніву".

Магчыма, што чытачы не задумваюцца над зместам такой рэкламы, калі яшчэ ніхто дагэтуль не звярнуў вам увагі. Але гэта б абазначала, што трэба было б падумаць аб іншых, больш кідаючыхся ў вочы, формах рэкламавання нашага тыднёвіка.

Не гневайцеся за гэтыя заўвагі. Не пішу іх, каб вам дакучыць, а толькі па прычыне жадання, каб „Ніва" была да найменшай дробязі акуратная.

З прывітаннем
**Пятро Байко**

Ай-ай-ай! Такі малады і такі пануры! І гэта наш даўні сябра і верны карэспандэнт Пятро Байко. Проста не хочацца верыць, што настолькі чужое Вам пачуццё гумару. Вы пішаце, што на гэтай карцінцы не інтэлігентны чытач намаляваны, а „нейкі ідыёт, дурыла, у кожным выпадку напэўна не нармальны чалавек".

А чаму ён ідыёт, дурыла? Бо лысы? А мо таму, што „Ніву" чытае з захапленнем? Тады крытыка належыцца рэдакцыйнай калегіі перш за ўсё, а не мастаку.

Думаю, аднак, што вам толькі так здаецца, што чалавек на нашым малюнку выглядае на дурнаватага. Лысіна ж, як і вам, пэўна, вядома, наадварот сведчыць аб розуме чалавека?! Разгледзьцеся навокал! Ці ж гэта праўда, што нармальныя, інтэлігентныя людзі абавязкова павінны быць прыгажунамі, людзьмі-акцёрамі?! Нармальны дзядок бярэ ў рукі „Ніву" і цешыцца, што ёсць там што пачытаць, а вам здалося, што ён звар'яцеў.

Не згаджаюся з вамі ў ацэнцы мастакоў. Аўтара малюнка Стэфана Рыбягу таксама да найгоршых не залічаюць у свеце, і вам аб гэтым, як нікому, павінна быць вядома. І ўжо, што як што, але прынамсі ён мае пачуццё гумару.

Вельмі дзякуем вам за дбайнасць пра нашу супольную справу — „Ніву", а паколькі сёння ў модзе плюралізм, дык на трохі яшчэ гэты малюначак затрымаем. Хіба што будзе больш крытычных галасоў.

З пашанай
**Ада Чачуга**



Ужо ў ходзе арганізацыйнай падрыхтоўкі да Дзён Гродзеншчыны на Беласточчыне, у якой мне давялося прыняць удзел як сакратару ГП БГКТ, я пераканаўся, што Гродзенскае абласное ўпраўленне культуры паставілася да гэтага мерапрыемства надзвычай сур'ёзна. Адналамлялі багацце і разнастайнасць планаванай гродзенцамі праграмы. Сапраўды, было з чаго выбіраць. Нічога дзіўнага, што я з нецярпліваcцю чакаў інаўгурацыі несумненнага свята гродзенскай культуры на Беласточчыне — выступлення калектыву „Белыя росы" з Гродна.

Тыя, якія 20 лютага апынуліся ў зале Беластоцкай філармоніі, пабачылі танцавальнае майстэрства на найвышэйшым узроўні. Амаль паўтарагадзінная праграма „Белых росаў" праходзіла пад авацыі захопленых гледачоў. Што перад усім уражвала? Маладосць, дынаміка і перспектыўнасць танцавальных нумараў. І насычанасць праграмы танцамі, рухам, дзеяннем. Тыя невялікія перапынкі ў танцах, калі на сцэне шасцёрка тонказграбных дзяўчат спявала беларускія народныя песні, былі якраз на тое, каб танцоры паспелі змяніць строі да чарговага свайго нумару. А змянялі іх прынамсі разоў сем (!) у адной праграме. А можа і яшчэ болей, і я, ашаломлены зыркасцю і шматфарбнасцю вопраткі і танцаў, памыліў рахункі. Грацыя, бадзёрасць і ўсмешка на тварах маладых танцораў увесь час гасцявалі на сцэне. І толькі зіркаючы ў расчыненыя дзверы за кулісы, у якіх знікалі маладыя выканаўцы, можна было ўглядзець, як нялёгка даецца такое на сцэне.

„Белыя росы" можна акрэсліць як калектыў танцавальна-вакальна-музычнага характару. Гродзенцы выступілі са сваім аркестрыкам народных інструментаў, а акрамя ўжо ўспамянутага шасціасабовага хору спявалі ўсе „беларосцы". Прытым шмат з тых, што танцавалі, у некаторых нумарах яшчэ і гралі. Шматбаковае ўмельства асабліва ўражвала, калі ўзяць пад увагу, што хлопцам і дзяўчатам, на першы погляд, было па дваццаць-дваццаць пяць гадоў, не болей. Памкнуўшыся даведацца






нечага пра калектыў, я пасля выступлення зайшоў за кулісы. Крыху было брыдка на душы ісці і дакучаць выканаўцам нейкімі пытаннямі, тым болей, што праз гадзіну яны мелі даваць другое выступленне (!), але дужа ўжо рупіла мяне пераканацца хоць словам з гродзенскімі госцьмі. Мне пашанцавала пагутарыць з мастацкім кіраўніком „Белых росаў" Яўгенам Штопам і харысткай Інэсай Гурыновіч. Даведаўся я, што ансамблю ўсяго паўтара года, сваю „базу" маюць пры Гродзенскай філармоніі, усе члены калектыву пазаканчвалі мастацкія або культурна-асветныя вучылішчы на тэрыторыі амаль усёй Беларусі, ці па-за яе межамі. Мы — прафесіянальны ансамбль народнага танца, кажа Яўген Штоп, адзіны на Гродзеншчыне. А адкуль у вашых выхаванкаў такія строі? Строі нам шыюць паводле спецыяльных праектаў майстроў кравецкай справы: народныя арнаменты і традыцыя народнай беларускай вопраткі па-мастацку стылізуецца і перапрацоўваецца. Таксама ж, зрэшты, як і танцы. Усе нашы танцы на народнай аснове, але харэаграфічна прыстасаваны для патрабаванняў сучаснай сцэны.

Недзе заднім ходам падступае зайздрослівая думка: вось бы і нам, на Беласточчыне, займець танцавальны калектыў. Хоць у палове такі, як „Белыя росы".

Ужо развітваючыся, Яўген Штоп тлумачыць мне назву ансамбля. Справа істотная, бо ў прэсе паявіліся памылкі, нейкія рускамоўныя асацыяцыі паўплывалі на тое, што ў польскіх газетах ахрысцілі „Белымі ружамі" (такая ж самая памылка і ў „ЛіМе" № 8 у занатоўцы аб днях гродзенцаў у Беластоку). А большасць людзей, як мне здаецца, назву звязвала з расою на траве, якая выпадае летнім надвячоркам і трымаецца ажно да белага дня. „Белыя росы", кажа Я. Штоп, гэта „Белыя русы", „рос" — старажытны назоў чалавека на Русі, Кіеўскай ці Белай.

**Ян Максімюк**
**Фота З. Зарэмба**










## ПАМІЖ НАРВАЙ І БУГАМ...

У артыкуле „Украінскі рух паміж Бугам і Нарвай" К. Расінскага („Kurier Podlaski", Nr 15 (1989) закрануты некаторыя праблемы фарміравання нацыянальнай свядомасці праваслаўнага насельніцтва Беласточчыны, а перш за ўсё на землях між Бугам і Нарвай, дзе дамінуе „гаворка, маючая ўласцівасці украінскай мовы", і дзе нацыянальная свядомасць праваслаўнага насельніцтва ўсё яшчэ слаба ўмацавана, а то і зусім неакрэслена.

Для даволі шырокага ўжо ўмацавання на гэтай тэрыторыі беларускай нацыянальнай свядомасці рашаючае значэнне мела дзейнасць КПЗБ, „Грамады" і факт прыналежнасці яе ў 1939-1941 гадах да БССР, а таксама, калі спасылацца на даўнейшую гісторыю — прыналежнасць Падляшскага ваяводства перад Люблінскай уніяй да Вялікага княства Літоўскага, большасць насельніцтва якога складалі беларусы і ў якім беларуская мова была мовай дзяржаўнай. Пасля уніі і потым, пасля падзелаў Рэчыпаспалітай, праваслаўная (і уніяцкая) частка Падляшша мела цягу да Беларусі (або Заходняй Беларусі), была яе заходнім рубяжом.

З двух галоўных фактараў, фарміруючых нацыю (мова і гісторыя) гісторыя рашуча сведчыць аб беларускасці праваслаўнага насельніцтва зямель між Бугам і Нарвай. Таксама тэрытарыяльныя і эканамічныя вузы былі і ёсць больш моцныя з Беларуссю, чым з Украінай.

А ўсё ж гістарычная супольнасць гэтай зямлі з Беларуссю не ўмацавана дастаткова ў свядомасці праваслаўнага насельніцтва. У далёкім і блізкім мінулым зроблена вельмі многа, каб пазбавіць беларусаў іх праўдзівай гісторыі. Толькі цяпер, у час перабудовы, сітуацыі ў гэтым аспекце можа палепшыцца. Цяпер можа дайсці да большага голасу моўны фактар фарміравання нацыянальнай свядомасці. І хоць у мінулым, напрыклад, у даваенны перыяд даволі экспансіўны украінскі нацыянальны рух не мог пахваліцца на гэтых землях ніякімі дасягненнямі, дык цяпер факт утварэння пяці ўжо гурткоў УГКТ гаворыць аб новай нацыянальнай сітуацыі.

Паколькі не ўсе праваслаўныя ўжо вызначылі сябе як палякаў або беларусаў, той, хто самавызначаецца цяпер як украінец, не заўсёды выракаецца беларускасці (ці нядаўна набытай польскасці). Але і так бывае. Прызнаючы правы кожнага на нацыянальнае самавызначэнне, ніякіх учынкаў людзей у гэтай галіне нельга ацэньваць адмоўна! Для мяне ўсё ж найбольш пераконваючымі застаюцца гістарычныя вузы Падляшша з Вялікім княствам Літоўскім (чытай: Беларуска-літоўскім), нягледзячы на ранейшую валынскую іх каланізацыю і кароткую сувязь з Галіцкай Руссю і Уладзімірскім княствам.

Беларуска-украінскае спаборніцтва на гэтых землях мае другараднае значэнне, паколькі галоўным працэсам з'яўляецца тут добраахвотная паланізацыя, за якой і побач з якой будзе ісці каталіцызацыя. Услед за гэтым і царква пераходзіць з рускай мовы ўсё часцей на польскую, якая, дарэчы, становіцца бліжэйшай і веруючым беларусам ці украінцам. У супрацьлегласць каталіцызму, які ў Беларусі адыграў важную ролю ў паланізацыі беларусаў-католікаў, праваслаўная царква ў Польшчы не адыгрывае, на жаль, значнай ролі нават у нацыянальным усведамленні праваслаўнага насельніцтва ўсходнеславянскага паходжання, для якога натуральным працэсам павінен быць выбар беларускай або украінскай нацыянальнасці.

**А. Л.**




## ВЕРА

Вера выйшла замуж маладая. Муж быў вельмі добры. Доўга з Ванем жыць не давялося. Загінаў пад коламі цягніка.

Маладая ўдава вельмі перажывала, аднак час робіць сваё — залечвае найбольш балючыя раны.

Вера пазнаёмілася з Ігнатам і неўзабаве зноў выйшла замуж. Ігнат таксама быў вельмі добры. Цешыўся, калі Вера зацяжарыла. Не мог дачакацца дзіцяці. Дзіцяці ўбачыць яму не давялося, бо скалечыў нагу і памёр.

— Вось якое ў Веры шчасце, — спачувалі людзі.

Жанчына плакала ноччу і днём.

Праз некалькі месяцаў нарадзіла дачушку. Назвала яе Марылькай.

— Мая ты бедная сіротка, — плакала нераз над ложкам дзіцяці, — як я цябе ў людзі выводзіць буду... Так цябе татка чакаў...

Дзяўчына расла здаровая. Марыльцы пайшоў шосты год.

Вера прыйшла з працы. З дачкой павячэралі. Памыліся, леглі спаць. Марылька, як заўсёды, папрасіла маму расказаць казку. Дачка прытулілася да яе і слухала з захапленнем. Раптам маці заплюшчыла вочы і сціхла. Дзяўчынка думала, што маці спіць і пачала гладзіць яе па галаве. Жанчына пачала чарнець на твары. Дзяўчынка злякалася і пабегла да суседкі.

Суседзі вызвалі хуткую. Лекар сказаў, што гэта быў інфаркт. Агледзеўшы дзяўчынку, рашыў узяць яе ў бальніцу, бо малая прастудзілася, схапіла яе запаленне лёгкіх.

Калі пахавалі Веру, прыйшла яе сястра Крыся і забрала ўсё лепшае з хаты, а да Марылькі ў бальніцу не пайшла.

Марылька ўсім расказвае, як памерла яе мама. Як убачыць людзей, якія прыходзяць да лекара за інфармацыяй аб хворых дзецях, просіць іх: „Вазьміце мяне да сябе". Людзі плачуць, але апрача спачування нічога не могуць даць дзяўчынцы.

**Аўрора**

# ЗОРКА
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



*Для „Зоркі“ выступілі дашкольнікі.*

## У ЛЯШУКАХ

Даўно ўжо дзеці са школы ў Ляшуках запрашалі да сябе „Зорку“ на розныя цікавыя мерапрыемствы. То на павітанне вясны, то на ёлку. А „Зорка“ ўсё не прыязджала. І вось, нарэшце, мы сустрэліся.

Праўда, у гэты дзень у школе нічога не планавалася асаблівага. Але з такой нагоды, што „Зорка“ ў школе, хуценька арганізаваўся ўрачысты школьны апэль. Кожны клас хацеў перад „Зоркай“ паказацца з як найлепшага боку.

Першымі выступілі дашкольнікі. Яны пахваліліся, што ўжо ўмеюць і спяваць, і танцаваць, і нават вершыкі дэкламаваць. І навучыла іх усяму гэтаму іх апякунка-настаўніца Аня Аліфер, тая самая Аня, якая яшчэ не так даўно сама ўдзельнічала ў школьных конкурсах беларускай песні. Малыя атрымалі вялікія бравы ад сваіх старэйшых сяброў.

Потым для „Зоркі“ выступіў школьны хор, які спявае ў суправаджэнні інструментальнага аркестра. Вядзе школьны мастацкі калектыў настаўнік Ян Ціванюк. Праўда, у той дзень яго ў школе якраз не было, але дзеці самі арганізаваліся і вельмі прыгожа заспявалі і зайгралі на цымбалках і на флейтах. Потым старэйшыя вучні, якія займаюцца ў школьным гуртку жывога слова, дэкламавалі вершы, якія падрыхтавалі на дэкламатарскі конкурс. Напрыклад, Аня Засім, вучаніца 7 класа, падрыхтавала да конкурсу верш Алеся Барскага „Белавежскі край“. Затым спявалі яшчэ вучні і трэцяга, і пятага класаў.

Пасля канцэрту выйшаў на сярэдзіну залы Ярэк Скепка, вучань восьмага класа, і сказаў:

— „Зорку“ напэўна зацікавіць, як мы жывем у школе, чым займаемся, што робім?

І Ярэк расказаў, што школа ўдзельнічае вельмі актыўна ў жыцці ўсёй вёскі, дапамагаюць дарослым утрымоўваць вёску ў чысціні, вызначылі сабе ў вёсцы месцы, якія прыбіраюць. Напрыклад, каля малачарні, каля прыстанку, каля крамы. Вельмі пільнуюць, каб заўсёды і каля школы было чыста. Укладалі ходнікі вакол супрацьпажарнага басейна. Пахваліўся, што гміна ахвотна бярэ вучняў іх школы на пасадку лесу, бо лес трэба ўмець садзіць, а яны гэта ўмеюць, у мінулым годзе школа атрымала нават ад гміны за добрую працу грашовую ўзнагароду.

Вельмі добра працуе школьная спулдзельня „Пчолка“. За спраўнае дакармлянне вучняў і

(Працяг на стар. 10)



*Хор у суправаджэнні цымбалістаў і флейцістаў выканаў некалькі беларускіх песень.*

## Вершы Віктара Шведа

### ЯК ЗАВУЦЬ БРАТА?

Сустракаюць Мікалая,
У яго настрой прыўзняты.
Хвастаецца ўсім, што мае
Ён малюсенькага брата.

— Як завуць твайго малога? —
Запытаў цікаўны Бора.
— Не магу сказаць нічога,
Невыразна ён гаворыць!

### РЭГУЛІРОЎШЧЫК

— Што робіць, — запытаўся
Ваня, —
Той чалавек на скрыжаванні?
Чаму ён, адкажы мне мама,
Усцяж вымахвае рукамі?
— Сыночку мой, дык вось
паслухай:
Гэта рэгуліроўшчык руху.
Рукой паказвае машынам
Ехаць куды яны павінны.
— Адкуль ён ведае, матуля,
Каму якой паехаць з вуліц?

### КАЛІ Б НЕ ЯНКА — КОЛЯ БЫЎ БЫ НАЙГОРШЫ Ў ШКОЛЕ

Мама пытае свайго Колю:
— Чаму ж ты з Мішкавым
Іванам
Сябруеш безупынна ў школе,
З гэтым найгоршым хуліганам?

— Калі б не сябраваў з Іванам,
Не жыў бы з ім як роўны
з роўным,
Я ў нашай школе пастаянна
Найгоршым быў бы безумоўна.

### ПАСЫЛАЮЦЬ ЗОСЮ Ў ШКОЛУ

— Колькі год табе,
дзяўчынка? —
Запыталі раптам Зосю.
Адказала праз хвілінку:
— Стукнула гадкоў мне восем.

— Ходзіш ты напэўна ў школу?
Зажурылася малая
З тварыкам раней вясёлым:
— Не хаджу. Там пасылаюць.

### ШТО БЛІЖЭЙ?

Янка запытаў Алеся:
— Адкажы мне, грамацей,
Аўстралія, ці Месяц
Сапраўды да нас бліжэй?

— Бліжэй Месяц, не іначай,
Так заўжды здаецца мне.
Месяц мы заўсёды бачым,
Аўстралію — дык не.

### ГОРБ ВЫРАСЦЕ, ЯК У ВЯРБЛЮДА

Унук малы скача ў пясочнік.
Бабуля крычыць з перапуду:
— Пашкодзіш сабе пазваночнік,
Горб вырасце, як у вярблюда.

Прыбег да бабулі ўнук Жэня,
Прасіць, каб яму расказала,
Калі адбылося здарэнне,
Што скокнуў вярблюд
так няўдала.

### ХУЛІГАНСКІ СТАХ

На вулічнай плошчы
Разгуляўся Стах.
Разбівае з прашчы
Лямпы на слупах.

Галасы людскія:
— Чаму ты робіш дрэнь?
— Я б'ю толькі тыя,
Што гараць удзень.

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## А У ПОЛІ ДВА ДУБОЧКІ
(Народная)

А у полі два дубочкі
Аж да долу гнуцца.
Маладыя малойчыкі
За дзевачку б'юцца.
Пабіліся, падраліся
І пайшлі да пана.
Адзін стаіць перад панам,
Сыпле дукатамі;
Адзін стаіць перад панам,
Сыпле дукатамі,
Другі стаіць за плячыма,
Абліўся слязамі:
— Бадай, табе, пане-браце,
Дукатаў нястала,
Як мы з ёю любіліся,
А на тваім стала!
Харошая дзяўчыначка,
Аддай мае грошы,
Ты ж судзіла, гаварыла,
Што я нехарошы!
Харошая дзяўчыначка,
Аддай чаравічкі,
Ты ж судзіла, гаварыла,
Што я невялічкі!
— Я й судзіла, й гаварыла
І гаварыць буду:
Ой, такі ж я,
маладзенька,
Жыць з табой не буду!





З чаго смяюцца суседзі.

Дыктар: — Вываз востраздэфіцытных тавараў з СССР, у тым ліку каляровых тэлевізараў забараняецца...

Мал. Н. Стрыка („Гродненская правда")






Мал. Е. Врублеўскага („Карузеля")

# АФАРЫЗМЫ

Няпэўнасць з'яўляецца маці падазрэння.

*

Каб справіць цуд на зямлі —
Патрэбны земскі рэалізм і навер'е ў цуды.

*

Надта „мудрае" дзіцё ўзбуджае здзіўленне.
Здзіцянелы стары чалавек — літасць.

*

Любоў да ўсіх людзей — гэта ўтопія.

*

На слабых фундаментах валіцца дом,
— на слабых нагах — чалавек.

*

Маладое зялёнае, — гавораць людзі, — пачакаць трэба, пакуль паспеюць.
Горш аднак, калі спелыя раптам зелянеюць.

*

Нарадзіўся пад Вагай, але пэўна пад аптэчнай,
бо неяк скупа важыць —
таленту крыху і крыху манеты.

Р. Бутайла

## ЛЮБЛЮ ЖАНЧЫН

— Мне ўжо 60 гадоў, але надалей люблю жанчын. Ці ў маім узросце ганяцца за жанчынамі гэта згубная справа?
— Не, хіба што іх дагоніце.

## СПРЭЧКА

Спрачаюцца конь і асёл, хто з іх больш карысны.
— За ніштo твая прыхільнасць, — сказаў асёл. — Хутка коней заменяць трактары, але аслоў заўсёды будзе ўдосталь на свеце.

## СКАРБ

Варажбітка да кліента:
— Бачу закапаны скарб!
— Ведаю! Мая жонка заўсёды аб ім гаворыць. Гэта яе першы муж.

# КРЫЖАВАНКА

**Упоперак:** 1) лясны звярок, які любіць арэхі, 5) у драмадэра адзін, 7) след на целе, шво, 8) сімвал армян, які знаходзіцца ў Турцыі, 9) насельніца, 12) да катання з горкі, 14) сварка, скандал, 16) „калючка", 18) задзіра, забіяка, 20) павага, слава, 21) тоненькая, але доўгая, 22) дрэва, з якога можна піць сок, 23) на галаве, 24) вядзе суровы спосаб жыцця (можна ўлажыць з „секты", або „сеткі").

**Уніз:** 1) прадказвае або зачароўвае, 2) раптоўная рэакцыя, 3) высакародны барацьбіт, 4) трава, якая рэжа, 5) калі загончык, дык на ім кветкі, калі жэрдка, дык на ёй куры, 6) горад у Грузіі над Чорным морам, 10) фундамент, частка слова з коранем, або падоўжныя ніткі, 11) гумно, але не падворак, 12) стэп каля экватара, 13) здабытае ў жыцці, 15 каркае, 17) найменшая колькасць энергіі, 19) архітэктурная дуга над вакном, ці над дзвярыма.

ядань

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

— * —

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 6.**

**Упоперак:** 3) падвязка, 9) краса, 10) плакат, 11) разведка, 12) слава, 13) рэалія, 14) кашка, 16) там-там, 20) ткач, 22) оптык, 23) лампас, 24) кнот, 25) клопат, 26) гусяня.

**Уніз:** 1) укос, 2) кара, 3) пара, 4) доза, 5) задышка, 6) апарат, 7) маразм, 8) ракіта, 14) каталог, 15) гарсюк, 17) Атос, 18) тытунь, 19) Мікіта, 21) чапля.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Віктар Корбут з Мінска і Алеся Пазняк з Брэста.



## ПАВУЧАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

Васьмідзесяцігадовы дзядуля ажаніўся з васемнаццацігадовай дзяўчынай. Праз год маладая жонка нарадзіла дзіця. Дзядуля пайшоў да пустэльніка і запытаўся:

— Ці сапраўды я і ёсць бацька таго дзіцяці, ці можа гэта сталася за боскай справай?




— Раскажу табе, — прамовіў пустэльнік, — павучальную гісторыю. Калісьці апынуўся я на пустыні. Раптам кінуўся на мяне раз'юшаны леў. У мяне ў руках быў толькі кій. Паднёс я яго да вока, прыцэліўся і крыкнуў як мог найгучней: „Паф!" Леў упаў мёртвы.

— Гэта сапраўды сталася за боскай справай, — заўважыў дзядуля.

— Не, — адказаў пустэльнік, — аказалася, што за мною стаяў паляўнічы з сапраўднай стрэльбай.




Любоў, як студня: добра з яе напіцца, але кепска ўпасці ў яе.